Минск представляет птицам новые источники пищи в виде многочисленных свалок, мест сбора мусора и бытовых отходов, сточных вод. Кроме этого, горожане сами активно подкармливают птиц в осенне-зимний период. Любят горожане, и в особенности маленькие минчане, покормить крякв, лысух, озерных чаек и лебедей-шипунов в парках вдоль р. Свислочи и на Лошицком водохранилище. Обилие пищи находят птицы на многочисленных рынках и вблизи продовольственных магазинов. Зимующие птицы с удовольствием кормятся плодами и ягодами рябины, боярышника, ясеня, татарского клена, облепихи.

Птицы широко используют для устройства гнезд архитектурные сооружения, промышленные и жилые здания. Здесь гнездятся голуби, стрижи, галки, воробьи, горихвостки-чернушки, белые трясогузки. На опорах линий электропередачи в городской черте гнездятся вороны и в последние годы серые вороны. Искусственные гнездовья, вывешиваемые минчанами на балконах и подоконниках, школьниками в парках и скверах, заселяются скворцами, воробьями, синицами, мухоловками, горихвостками. Чайки – хохотунья и сизая – начали гнездиться на крышах зданий в промышленной зоне города. Вяхирь и сойка все чаще переходят на гнездование в садах поближе к человеку.

Однако многие виды птиц живут в городе лишь постольку, поскольку здесь остались вкрапления свойственных им природных биотопов: болот, кустарников или лесов. Таких птиц,



удержавшихся в нашем городе, довольно много – около пяти десятков, но в большинстве своем они редки и представлены на гнездовании одной–пятью, редко больше, парами. Некоторые из них постоянно меняют места обитания в соответствии с переменами, происходящими в городском ландшафте. Эти виды птиц при всяком изменении привычных для них мест обитания, даже незначительных, покидают город. Уничтожили кустарник на правом берегу р. Лошицы возле остановки «Ручей» в Курасовщине – и сразу это место покинули наши лучшие певцы: соловьи и черноголовые славки. Убрали пустыри – и исчезли жаворонки, перестали гнездиться луговые чеканы, полевые коньки и каменки. Сделали бетонную набережную на реке Свислочи в центре города – и не стало зимородков и береговых ласточек. Таких примеров можно привести множество, но как найти правильный выход из сложившейся ситуации? Ведь сколько эмоций вызывают у людей пролетающие над городом величественные стаи белоснежных лебедей, а как грустно становиться, когда услышишь в сером осеннем небе прощальный крик журавлей! Дети, кормящие птиц с руки или наблюдающие порхающих над цветущим лугом бабочек, приходят в неописуемый восторг. Убрать все эти положительные эмоции из жизни человека – и мы навсегда потеряем связующую нить с природой.

Выход из этой ситуации можно найти всегда, не затрачивая на это больших средств. Необходимо лишь, чтобы городские власти и строители нашли общий язык с экологами, зоологами, ботаниками и другими специалистами. Ведь небольшой, но чистый водоем с тростником и рогозом да растущими кувшинками, низинное болото с осокой, цветущей по весне калужницей и болотным ирисом, оставленный в естественном состоянии цветущий луг только украсят городской ландшафт, не говоря уже о том, что здесь найдут свой дом многие животные.

Довольно значительную часть, около 30%, орнитофауны Минска, составляют пролетные и залетные виды. Эти виды либо перестали здесь гнездиться в недалеком прошлом, как, например, поручейник, малая чайка, малая крачка, обыкновенный сверчок, либо, в силу ряда причин, вовсе не приемлют городскую среду и близость человека в период гнездования. Есть и такие, кто снова смогут загнездиться в городе, как это произошло, скажем, с ястребом-тетеревятником.

В Минске весной и осенью ярко выражены миграции водоплавающих и околоводных птиц. На водохранилищах города для отдыха и кормежки останавливаются сотенные стаи кряквы, шилохвостей, свиязей, лысух. Отдыхающие стаи озерной и сизой чаек достигают численности пяти–десяти тысяч. Значительны продвижения через город и воробьинообразных птиц: трясогузок, врановых, дроздовых, жаворонков, вьюрков, овсянок и других.

Зимняя орнитофауна города представлена 79 видами и состоит из оседлых птиц, прилетающих на зимовку, и отдельных особей мигрантов, оставшихся зимовать. Количество зимующих в Минске крякв достигает семи тысяч. Лебедь-шипун, лысуха, озерная и сизая чайки и в отдельные годы чайка-хохотунья представлены сотней и более зимующих особей. Столь высокая численность стала возможной благодаря обилию пищи и многочисленным незамерзающим водоемам: р. Свислочь вниз от Дроздовского и Чи-



**Зимовка чаек**

жовского водохранилищ, Лошицкое водохранилище, технический водоем в Шабанах и Минская станция аэрации. Многочисленна на зимовке и серая куропатка. В снежные зимы многие куропатки с сопредельных территорий собираются по окраинам города, где под землей проложены трубы теплоцентрали. Снег здесь быстро тает, и птицы кормятся на оттаявшей земле вегетативными частями растений и их опавшими с осени семенами. Значительны в городе и зимовки серых ворон, больших синиц, голубых лазоревок, полевых и домовых воробьев. В последнюю, очень суровую зиму, благодаря обильному урожаю рябины в городе зимовали около десяти тысяч дроздов-рябинников и несколько сотен дубоносов.

За последние 10 лет в Минске отмечено 33 вида птиц, занесенных в Красную книгу Республики Беларусь. Но только 13 из них гнездятся. Среди редких птиц на территории Минска есть виды, положительно отзывающиеся на помощь сос тороны человека. Для обыкновенной пустельги, домового сыча и обыкновенного зимородка биотехническая поддержка посильна даже школьникам. Этим видам нужны правильно изготовленные и установленные искусственные гнездовья. Другие виды птиц можно сохранить в городе только благодаря созданию микрозаказников таких, например, как «Лебяжий».

Чем больше будет сохранено в городе различных, пусть даже незначительных по площади естественных биотопов, тем больше и разнообразнее будет население птиц нашей столицы. Наблюдение за птицами, изучение их повадок и образа жизни должно научить людей жить в равновесии с окружающей средой, позволить нам не только полюбить «островки живой природы» города, но и дать шанс сохранить их, а не остаться один на один с гранитными стенами и бетонными мостовыми.

**In his article titled «Birds of Minsk», Valery Yurko explains where, when and which bird species can be seen in Minsk. The Belarusian capital is one of the greenest cities in Europe, which is why it is so popular with birds. Just imagine, 194 bird species have been registered here, 119 of which are breeding in town. Over the past ten years, 33 Belarusian Red Data Book bird species have been recorded here. The author details on the «forest», «wetland» and «aquatic» urban bird species, focusing on their conservation.**




# ЖЫЎ-БЫЎ ВЕРАБЕЙ

**Сяргей ЗУЁНАК**

Амаль усе птушкі, з якімі сутыкаецца чалавек у штодзённым жыцці – ці то яны жывуць па суседству, ці то проста сустракаюцца час ад часу на лузе альбо ў лесе – знаходзяць сваё адлюстраванне ў розных галінах чалавечай творчасці, а бывае нават, як гэта здарылася з белагаловым арланам, становяцца сімваламі цэлых дзяржаў. Крумкач, журавель, малінаўка, бусел, шпак, кнігаўка, дрозд – пра каго песні співаюць, каму верш ці проза прысвечаны. Голуб, дык той і ўвогуле з лёгкай рукі, а дакладней, з алоўка Пікасо стаў вядомым на ўвесь свет і сімвалізуе сабой цэлую эпоху. Пра салаўя і казаць няма чаго – колькіх творцаў натхніла гэта знешне непрыкметная істота, пэўна, і пералічыць немагчыма. Яно і зразумела, кожная з гэтых птушак нечым прыкметная, з любой можна звязаць нейкую з'яву альбо здарэнне. Шпак, скажам, сімвалізуе надыход вясны, салавей нагадвае аб нечым інтымна-рамантычным, бусел уяўляе сабой вобраз шматпакутнай прыгажуні-Беларусі... Так што кожнай сястрыцы па завушніцы, вось толькі...

...Вось толькі, ухваляючы ў сваіх творах нашых пярнатых сяброў і суседзяў, мастакі з паэтамі, як гэта часта і здараецца, начыста забылі, а можа, і свядома праігнаравалі вераб'я – суседа, бадай што, самага блізкага, усё жыццё якога побач з намі праходзіць.

А што той верабей?.. Такі звычайны, будзённы, шэранькі – хіба ён можа на што-небудзь натхніць? Птушка як птушка – круціцца кожны дзень пад нагамі, ціўкае нешта сваё, седзячы на



плоце – так прымільгаўся, што і заўважаць яго, дробязь пузатую, перастаеш. Дык гэта яшчэ паўбяды. Руплівы гаспадар і ўвогуле яго за зладзюжку трымае. А што вы думалі – то на таку зерне дзяўбе, то каля курэй разжывецца, калі гаспадыня ім ячменю сыпане, а то і ў сенцы заскочыць – па скрынях пашастаць. Вось, здаецца, і ўсё, ну, што яшчэ пра яго сказаць можна?

Але ж ці толькі? Можа, не такі ён ужо і прасцячок, гэты самы верабей – шэранькая світка?..

Адчуць гэта на ўласнай, як кажуць, скуры мелі аднойчы магчымасць жыхары Кітая. На думку аднаго з тамашніх кіраўнікоў занадта прывольна сябе кітайскія вераб'і адчуваць сталі – скачуць, лётаюць дзе захочацца, зерне ды іншую спажыву дзяўбуць, моц і дабрабыт Паднябеснай Імперыі падрываюць. Вось і атрымаў кітайскі верабейка статус «варожага элемента» з рэзалюцыяй: «прывесці ў выкананне». Ну, а кітайцы, як вядома, народ шматлікі ды паслухмяны, калі спатрэбіцца – не тое, што вераб'ёў, камароў шапкамі закідаюць. І толькі знішчыўшы падчыстую ўсё сваё вераб'інае насельніцтва, даведаліся жыхары Паднябеснай аб іншых, на першы погляд непрыкметных старонках вераб'інай біяграфіі. А старонкі, прама

скажам, гераічныя. Харчуюцца вераб'і, як высветлілася, не толькі збожжам, але і вусенямі, якія вельмі «прафесійна» гэтае збожжа знішчаюць. Харчуюцца і самі, выкормліваюць і птушанят, прычым у гэты час выключна на жывую здабычу пераключаюцца. Яно і зразумела — мяса ёсць мяса — і па калорыях, і па вітамінным ўтрыманню сухому зерню не роўня. А птушанят у вераб'я пяць-сем, а вывадкаў за год дватры, а вусеняў кожнае птушаня дваццаць—трыццаць штодзень з'ядае, а вераб'ёў у Кітаі... Вось такая арыфметыка атрымліваецца. Карацей кажучы, схамянуліся кітайцы, калі ўраджаі рысу пачалі катастрафічна змяншацца. Прааналізавалі прычынна-выніковыя сувязі і за галаву схапіліся. Давялося хунвэйбінам, атрымаўшы экалагічны ўрок, з-за мяжы вераб'ёў прывозіць ды кітайскую прапіску ім афармляць, альбо, панавуковаму кажучы, ажыццяўляць рэінтрадукцыю віда.

Вядомы і іншы выпадак з дакладнасцю да наадварот. У мінулым стагоддзі жыхароў амерыканскага горада Бостана напаткала вялікая бяда. Падкралася яна ў выглядзе незлічонай процьмы вусеняў, якія знішчылі ў акрузе ўсю траву і ўжо падбіраліся да садоў і палеткаў. І тады на дапамогу бостанцам прыйшлі вераб'і. У рэкордна кароткі тэрмін яны знішчылі шкоднікаў, выратаваўшы жыхароў горада ад немінучага голаду. У знак пашаны сваім выратавальнікам удзячныя амерыканцы ўзвялі ў Бостане помнік, на пастаменце якога велічна ўзвышаецца верабей — сціплая шэрая птушачка.

Трэба адзначыць, што ў шэрагу шматлікай вераб'інай радні — ткачыкаў і ўдовак, якія шырока распаўсюджаны ў Афрыцы і маюць у сваёй афарбоўцы амаль усе колеры вясёлкі, нашы суайчыннікі выглядаюць не вельмі прэзентабельна — і знешні выгляд, і спевы ў іх больш чым сціплыя. Але вясёлы, бесклапотны, задзірлівы характар цалкам кампенсуе ўсе недахопы. Каб перакanацца ў гэтым, дастаткова ўявіць сабе вераб'іны гурток, што прымае водныя працэдуры ў першай сакавіцкай лужыне: колькі тут жыццёвага аптымізму, энергіі, ды і вэрхалу хапае.

Пэўна, з той нагоды, што дамовы верабей, а гаворка ідзе менавіта пра гэты від, усё сваё жыццё праводзіць побач з людзьмі, рысы характару ў яго амаль што чалавечыя. Паназірайце як-небудзь за ўзаемаадносінамі паміж некалькімі вераб'інымі сем'ямі, якія ўсталявалі свае гнёзды недалёка адна ад другой. Будзённыя суседскія размовы час ад часу перарастаюць у спрэчкі, якія не так ужо і рэдка заканчваюцца сапраўднымі баталіямі. Дамовы верабей — бадай што адзіная птушка, якая можа распачаць бойку без усякіх на тое прычын, проста так, дзеля самога працэсу. Дарэчы, у гэтых бойках вераб'і прытрымліваюцца своеасаблівага кодэкса гонару — самцы высвятляюць адносіны толькі з самцамі, самкі — з самкамі, а дарослая птушка ніколі не зачэпіць злётка. Але на гэтым джэнтльменскія паводзіны вераб'ёў і заканчваюцца. У большасці жывёл і птушак дастаткова слабейшаму з сапернікаў падчас спрэчкі прадэманстраваць позу пакорнасці, як пераможца, задаволіўшыся гэтым, адразу перапыняе бойку. У большасці, але не ў вераб'ёў. Дайшоўшы да шаленства, задзіра дзяўбе свайго слабейшага сабрата да канчатковай бескампраміснай перамогі, амаль як у людзей. Дарэчы, калі гурток вераб'ёў уладкоўваецца на начлег дзенебудзь у бэзавым кусце, птушкі строга вытрымліваюць паміж сабой такую дыстанцыю, каб сусед не змог дацягнуцца дзюбай да суседа. (Параўнайце з гуртком каралькоў альбо сініц-апалоўнікаў у аналагічнай сітуацыі — тыя дык, каб было цяплей, збіваюцца ў шчыльны гурток і нагадваюць адзіны пухнаты трапечучы камячок, з якога ў розныя бакі тырчаць смешныя хвосцікі).

Жыццё побач з чалавекам (дарэчы, дамовы верабей, у адрозненні ад свайго палявога сабрата, за межамі населеных пунктаў ніколі не сустракаецца) развіло ў вераб'ёў такія рысы паводзін, якія ў іншых птушак, бадай што, і не сустракаюцца. Значная колькасць гарадскіх вераб'ёў падчас халоднага зімовага надвор'я перасяляецца ў будынкі вакзалаў, крытых рынкаў, нават у падземныя станцыі метро. Там яны і жывуць, пакуль не вырашаць, што кліматычныя ўмовы дазваляюць перасяліцца пад адкрытае неба. Адкрываюцца перад гарадскімі птушкамі шырокія магчымасці і ў плане гастранамічных вышукванняў. Для такога едака як верабей, дзе-небудзь пад рыначным прылаўкам, ля дзвярэй крамы, ці проста на сметніку заўсёды знойдзецца кавалачак хлеба, пячэння альбо пончыка, паперка з рэшткамі марожанага, рассыпаныя крупы, крыху кашы, вараная бульбіна... Ды і ці мала іншых прысмакаў можна знайсці ў любым з нашых населеных пунктаў проста так, на вуліцы! Усё гэта верабей з задавальненнем ужывае ў ежу, але перавагу ўсё ж аддае свежым раслінным кармам, у першую чаргу насенню горца птушынага, які, дарэчы, як і сам верабей, з'яўляецца нязменным спадарожнікам чалавека. Акрамя гэтага, у ход ідзе насенне сланечніка, проса, недаспелая грэчка і пшаніца, пупышкі некаторых дрэў, вішні, суніцы, бутоны дзьмухаўца, зялёная трава. Птушанят, як мы ўжо высветлілі, вераб'і выкормліваюць выключна «мясам» — матылі, павукі, вусені — усё прыдасца да стала. Шукаючы корм, далёка за межы населенага пункта птушкі не вылятаюць, сотня-другая метраў — і назад, да родных сцен: вялікія адкрытыя прасторы не для вераб'ёў. Паміж іншым, дамовыя вераб'і накшталт варон навучыліся рабіць імправізаваныя «кладоўкі» — знойдзе птушка кавалачак хлеба, дзеўбане раздругі, потым аднясе ўбок і прыхавае куды-небудзь у шчыліну ці пад леташні лісток. Праўда, потым часцей за ўсё вераб'і пра такія схованкі паспяхова забы-





ваюцца, асаблівай патрэбы ў іх няма — ежы каля людзей, дзякуй богу, заўсёды хапае.

Зімой дамовыя вераб'і разам з вялікімі сініцамі — самыя заўзятыя наведвальнікі птушыных сталовак. Спачатку шэрыя крыху асцярожнічаюць — ці мала што можа здарыцца, калі за дармавым пачастункам пагонішся! Дзень-другі назіраюць яны за тым, як вясёлыя сініцы раз за разам выхопліваюць з кармушкі семкі і адносяць іх на суседняе дрэва, каб там спакойна, без мітусні раздзяўбсці, з'есці салодкае зернейка, а потым ляцець за новым пачастункам. Пры такім рэжыме кармушка ўвесь час адкрыта для наведвальнікаў і працуе накшталт своеасаблівага канвеера — адна сініца хапае семку, другая ляціць да дрэва, трэцяя дзяўбе, чацвертая вяртаецца з дрэва на кармушку. Відаць, з усяго гэтага вераб'і робяць пэўныя аргвывады, бо як толькі высвятляецца, што небяспекі тут ніякай няма, яны становяцца на кармушцы паўнапраўнымі гаспадарамі. Займе самы нахабны найбольш зручнае месца на століку, крылцы, каб страшнейшым здавацца, растапырыць, шыпіць, дзюбай пагрозліва шчоўкае, не забываючы пры ўсім гэтым дармавы сланечнік лузгаць. Так і сядзіць, пакуль не налузгаецца ад пуза, потым яго месца займае другі, а там, глядзіш, ужо і першы зноў згаладаўся...

Гнёзды свае, нягледзячы на тое, што размешчаны яны большай часткай ва ўкрыцці (пад дахам ці за аканіцамі) вераб'і робяць у выглядзе шара — са сценамі, дахам, асобным уваходам, зусім як у афрыканскіх сваякоў, вось толькі не шматпакаёвыя, на некалькі сем'яў (каланіяльныя гнёзды трапічных ткачыкаў нагадваюць вялізны травяны мех з мноствам асобных уваходаў у ізаляваныя гнездавыя камеры), а індывідуальныя, так сказаць, катэджнага тыпу. Так што ў плане жыллёва-камунальных умоў наш верабей нават і абставіў замежную радню.

Усяго ў Еўропе налічваецца 5 відаў вераб'ёў, у Беларусі з іх абсталявалася толькі два: наш добры знаёмы дамовы верабей і яго палявы сабрат. Адрозніваюцца яны перш-наперш тым, што палявы верабей не мае палавога дымарфізму — самцы і самкі гэтага віда выглядаюць аднолькава: на галаве карычневы капялюшык, на шэрых шчочках — чорныя плямінкі. У дамовага вераб'я самка мае аднастайную буравату афарбоўку, у самца шэры капялюшык і шчокі, на грудзях — чорны гальштук. У адрозненне ад дамовага, ці як яго яшчэ часам называюць гарадскога вераб'я, палявы, альбо вясковы, не адчувае такой вострай патрэбы ў наяўнасці сцен і дахаў, з аднолькавай ахвотай пасяляецца ён як у населеных пунктах, так і за іх межамі: у лесапаласах, зарасцях хмызнякоў па берагах рэк, у змешаных лясах. Гнёзды робіць у нішах сцен і дахаў, шпакоўнях, дуплах, даволі часта пасяляецца ў асновах гнездавых пабудоў буслоў і буйных драпежнікаў. Аснову харчавання палявога вераб'я складаюць плады і насенне; птушанят, як і дамовы верабей, выкормлівае рознымі бесхрыбетнымі.





Першапачаткова дамовыя вераб'і засялялі краіны Міжземнамор'я, а потым, на правах нязменнага спадарожніка і суседа чалавека рассяліліся амаль па ўсім зямным шары. Сучасны арэал гэтага віда ахоплівае Еўропу, большую частку Азіі, Афрыку, Аўстралію, Новую Зеландыю, Цэнтральную і Паўночную Амерыкі, многія астравы і архіпелагі. Нягледзячы на такі значны арэал, у многіх краінах Цэнтральнай і Заходняй Еўропы папуляцыі дамовага вераб'я ў апошнія дзесяцігоддзі перацярпелі літаральна катастрафічнае скарачэнне колькасці. Напрыклад, у Вялікабрытаніі гэты від зараз мае той жа статус аховы, што і глабальна знікаючая вяртлявая чаротаўка. Колькасць дамовых вераб'ёў у Кенсінгтонскім парку ў Лондане ў 1925 годзе складала 2603 асобіны, у 2003 годзе на той жа тэрыторыі засталося ўсяго 4 самца, якія не здолелі знайсці сабе пару. Зараз Каралеўскае таварыства аховы птушак Вялікабрытаніі (RSPB) праводзіць шырокамаштабныя даследаванні з тым, каб высветліць, што ўсё ж такі паслужыла асноўнай прычынай гэтай з'явы. Зніжэнне колькасці вераб'ёў настолькі хвалюе англічан, што гэта пытанне нават разглядалася на пасяджэнні парламента. Справа ў тым, што дэградацыя папуляцый любога віда жывёл і раслін, асабліва сінантропных, сведчыць аб пагаршэнні ўмоў пражывання і самога чалавека.

Колькасць жа беларускай папуляцыі дамовага вераб'я за апошнія 15 гадоў зменшылася з 2,3 да 0,9 млн. пар. Палявы верабей аказаўся больш трывалым да жыццёвых нязгод — за гэты ж тэрмін стан яго папуляцыі істотна не змяніўся. І хаця далейшы лёс нашых вераб'ёў пакуль што не дае асаблівых падстаў для хвалявання, задумацца ўсё ж ёсць над чым. З гэтай нагоды грамадская арганізацыя «Ахова птушак Беларусі» і праводзіць агульнанацыянальны ўлік вераб'ёў, вынікі якога павінны даць матэрыял для грунтоўнага вывучэння сучаснага стану гэтага віда. Вядома, існуе цэлы шэраг іншых відаў, якія патрабуюць неадкладных ахоўных мер, ёсць і такія, што без дапамогі чалавека ўжо проста не змогуць выжыць. Безумоўна, што прыярытэты ў распрацоўцы планаў захавання належаць менавіта ім. Але, згадзіцеся, захаванне на планеце такога віда як дамовы верабей, які спрадвеку жыве побач з людзьмі, падзяляе ўсе іх радасці і нягоды, моўчкі разам з імі разлічваецца за іх экалагічныя памылкі, — справа гонару кожнага жыхара планеты Зямля.

**It is by no means accidental that the house sparrow has been selected by APB as Bird of Year 2003, it's Belarusian population has recently plummeted from 2.9 million to 0.9 million pairs. The patter is similar all over Europe. Why? Along with numerous other inquiries, the question is addressed by Sergey Zuyonak in his article «Life of a Sparrow».**

# АНАТОЛЬ УЛАДЗІМІРАВІЧ ФЯДЗЮШЫН

**Васіль ГРЫЧЫК**

Першыя тры дзесяцігоддзі XX стагоддзя можна, бадай, назваць «залатым векам» беларускай арніталогіі. Дзякуючы намаганням У.М.Шнітнікава, Я.Даманеўскага, У.У.Станчынскага, В.Л.Біянкі, А.Р.Штама, нямецкіх арнітолагаў ваеннага часу і іншых даследчыкаў былі сабраны і надрукаваны вялізныя матэрыялы па фауне птушак Беларусі. Аднак, калі ацэньваць значнасць гэтай працы па паўнаце і ўзроўні абагульнення інфармацыі, то на першым месце ў гэтым шэрагу павінна стаяць прозвішча беларускага даследчыка, прафесара Анатоля Уладзімі-равіча Фядзюшына. Менавіта яго даследванні, абстрагуючыся ад традыцыйных на той час спісаў відаў і пералікаў калекцыйных матэрыялаў, упершыню ўзыходзяць да рангу сур'ёзных навуковых абагульненняў і ўяўляюць сабой аснову арніталагічнай фауністыкі Беларусі ўжо сучаснага ўзроўню.



Будучы вучоны нарадзіўся 28 красавіка 1891 года ў Слуцку, у сям'і дробнага павятовага чыноўніка-землямера. Менавіта бацька — вялікі аматар палявання — рана прабудзіў у хлопчыка любоў да прыроды і цікавасць да вывучэння жывёл. Гэтыя якасці і вызначылі жыццёвы выбар будучага заолага: у 1909 годзе, скончыўшы Слуцкую гімназію, ён паступае вучыцца ў Маскоўскі універсітэт на прыродазнаўчае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта. У той час у Маскоўскім універсітэце працаваў шэраг вядомых прафесароў-заолагаў: М.А.Мензбір, Р.А.Кажэўнікаў, Б.М.Жыткоў, А.М.Северцаў. Менавіта М.А.Мензбір прапанаваў студэнту заняцца вывучэннем птушак Беларусі, і ў 1912 годзе ў часопісе «Арніталагічны веснік» убачыла свет першая навуковая праца А.У.Фядзюшына «Аб некаторых птушках Мінскай губерні». Матэрыялы для гэтай працы былі сабраны пад час студэнцкіх канікул у ваколіцах Слуцка.

Скончыўшы універсітэт у 1913 годзе, А.У.Фядзюшын працуе выкладчыкам у Пінскім рэальным вучылішчы. Аднак пачынаецца Першая сусветная вайна, і юнака прызываюць у армію. Спачатку ён праходзіць падрыхтоўку на курсах малодшых афіцэраў, затым трапляе ў армейскі дывізіён, дыслацыраваны ў Заходняй Сібіры. Рэвалюцыя 1917 года і грамадзянская вайна закружылі маладога чалавека ў віхуры падзей, і ў ліпені 1918 года ён аказваецца афіцэрам інтэнданцкай службы арміі адмірала Калчака, што ваявала супраць бальшавікоў. Гэты эпізод біяграфіі ў далейшым не раз зробіць адмоўны ўплыў на жыццё вучонага.

У 1920 годзе А.У.Фядзюшын вяртаецца да педагагічнай і навуковай дзейнасці, спачатку працуе лектарам педагагічных курсаў у г. Ачынску, а ў 1921 годзе зноў пераязджае ў Беларусь. З першых месяцаў заснавання Беларускага дзяржаўнага універсітэта ён становіцца яго выкладчыкам і загадчыкам кафедры заалогіі, у 1927 годзе атрымлівае званне прафесара. Менавіта ў гэты перыяд разгортваецца маштабная навуковая дзейнасць А.У.Фядзюшына па даследаванню фауны беларускіх птушак.

Каб ацаніць уклад А.У.Фядзюшына ў вывучэнне арнітафауны Беларусі, варта даць пералік яго навуковых экспедыцый, праведзеных за перыяд працы ў БДУ (1921—1933 гады):

**1921 год:** ліпень — жнівень — Любанскі раён, асеннія месяцы — ваколіцы Мінску.

**1922 год:** шэраг выездаў у ваколіцы Мінска вясной, летам і восенню.

**1923 год:** красавік — праходжанне на лодках маршруту па рацэ Пцічы ў межах цяперашніх Пухавіцкага і Асіповіцкага раёнаў.

**1924 год:** трохмесячная экспедыцыя ў паўночныя раёны Беларусі і сумежную частку Пскоўскай вобласці (з 20 мая па 15 жніўня), затым паездка на р. Днепр і р. Брагінку (верасень).

**1925 год:** экспедыцыя ў Магілёўскую вобласць і на р. Брагінку (з канца мая па канец жніўня).

**1926 год:** экспедыцыя ва Ўсходняе Палессе — на р. Прыпяць, раён Мазыра і воз. Чырвонае (чэрвень—ліпень).

**1927 і 1928 гады:** шэраг экскурсій у ваколіцах Мінска ў розныя поры года і кароткачасовая паездка ва Ўсходняе Палессе.

**1929 год:** экспедыцыя ва ўсходнюю частку Віцебшчыны (чэрвень—ліпень) і затым — экспедыцыйны маршрут па ўсходняй Гомельшчыне (ліпень—жнівень).

**1930 год:** працяглая (з мая па лістапад) экспедыцыя ва ўсходнюю частку басейна р. Прыпяці.

**1931 год:** даследаванні Мазырскага і Рэчыцкага Палесся (чэрвень—жнівень).

Арганізацыя і правядзенне навуковых экспедыцый у той час было справай вельмі складанай і патрабавала вялікіх намаганняў. Хоць БДУ і іншыя ўстановы часам выдзялялі на гэта пэўныя сродкі, узнікалі шматлікія перашкоды, звязаныя з адсутнасцю транспарту (карысталіся пераважна падводамі або лодкамі), нізкім узроўнем культуры і галечай. Чытаючы справаздачы А.У.Фядзюшына аб экспедыцыях 20-х гадоў, часам вельмі яскрава ўяўляеш умовы, у якіх прыходзілася працаваць. Прывядзём для прыкладу толькі адзін урывак з дзённіка экспедыцыі на раку Пціч 1923 года:

«...Гадзіны праз чатыры мы зраўняліся з вёскай Гарэлец, якая знаходзіцца за паўтары вярсты ад ракі. У час мінулай вайны мост праз раку ў гэтым месцы быў спалены, і зносіны вёскі

з аколіцамі магчымы толькі на лодках. Мы звярнулі з ракі ў канаву, якая ідзе амаль да самай вёскі, і праплылі па ёй каля вярсты, але ўсё ж такі ўрэшце прышлося выгрузіцца і цягнуць лодку на буксіры, колькі хапіла сілы па разьмяклай гразі. Далей мы змушаны былі ісці па залітым балоце не менш ста сажняў да вясковых гародаў; як толькі ўзышлі на іх – лёгка ўздыхнулі.

Старшыня сельскага Савету даў нам кватэру, бо тут прызначалася наша першая база для працы... Прышлося змясціцца ў школе, у якой з прычыны вясны спыніліся заняткі... Каму даводзілася жыць і працаваць у беларускай вёсцы, той ведае, як часта бываеш звязаным і сам замінаеш у большасці выпадкаў дабрадушным гаспадарам звычайна бруднай, з маленькімі вокнамі і адзіным сталом хаты... Вось чаму на гэты раз мы, зразумела, былі вельмі задаволены кватэрай».

Спадарожнікамі А.У.Фядзюшына ў экспедыцыях былі пераважна студэнты БДУ: М.В.Дабратворскі, У.У.Слесарэвіч, А.М.Камоцкі, І.М.Сяржанін і іншыя. З кожнай экспедыцыі прывозіліся дзённікі назіранняў і навуковыя калекцыі, якія перадаваліся ў БДУ, а ў 1929–1931 гадах – таксама ў Акадэмію навук. Усяго за час экспедыцый было сабрана больш за 4 тысячы навуковых калекцыйных птушыных шкурак. Большая частка гэтых збораў і сёння захоўваецца ў заалагічным музеі БДУ.

Па матэрыялах экспедыцый А.У.Фядзюшын даволі хутка друкаваў навуковыя справаздачы, якія выходзілі ў свет у «Працах БДУ», а таксама ў перыядычным зборніку «Матэрыялы да вывучэння флоры і фауны Беларусі», што выходзіў у той час. Ён таксама ўдзяляў шмат увагі вывучэнню стану паляўнічых і прамысловых відаў птушак і звяроў, клапоцячыся аб арганізацыі паляўнічай гаспадаркі Беларусі. У 1929 годзе асобнай кнігай выйшла яго вялікая праца «Дынаміка і геаграфічнае распаўсюджанне паляўнічай фауны БССР», якая зараз належыць да катэгорыі бібліяграфічных рэдкасцяў.

Здавалася б, навуковая і педагагічная дзейнасць А.У.Фядзюшына па тым часе складвалася нядрэнна. Аднак, калі ўважліва чытаць надрукаваныя ў «савецкі» час біяграфіі вучонага, паўстае шэраг пытанняў. Незразумелым падаецца ў першую чаргу адсутнасць надрукаваных справаздач аб экспедыцыях 1930–1931 гадоў, адсутнасць экспедыцый у 1932 і 1933 гадах і, урэшце, ад'езд на сталае жыхарства ў г. Омск у канцы 1933 года. Якія абставіны былі прычынай змены месца працы і жыхарства А.У.Фядзюшына, удалося ўстанавіць толькі пры вывучэнні шэрагу дакументаў таго часу, што захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.

Як аказалася, у 1931 годзе пачалася выдача пашпартоў насельніцтву Беларусі. Аднак праводзілася яна з пэўнымі абмежаваннямі. Адна з умоў «пашпартызацыі» адмаўляла ў выдачы пашпарту ўсім асобам, якія ўдзельнічалі ў грамадзянскай вайне не на баку бальшавікоў і пражывалі ў прыгранічных абласцях (Міншчына ў той час непасрэдна межавала з Польшчай). Вынікі гэтага для А.У.Фядзюшына былі самымі несуцяшальнымі: яму было катэгарычна адмоўлена ў выдачы дазволу на паездкі і экспедыцыі па тэрыторыі Беларусі. Да таго ж у БДУ і Акадэміі навук распачалася кампанія па выяўленню «чуждага элементу» сярод выкладчыкаў і вучоных.

ПРОФЕССОР А.В. ФЕДЮШИН

ДИНАМИКА И ГЕОГРАФИЧЕСКОЕ РАСПРОСТРАНЕНИЕ ОХОТНИЧЬЕЙ ФАУНЫ БССР



ИЗДАНИЕ „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ" /ОРГАН БЕЛКААХОТСАЮЗА/ МИНСК-1929

Аб тым, у якіх цяжкіх маральных абставінах апынуўся А.У.Фядзюшын да 1933 года, яскрава сведчыць вытрымка з характарыстыкі, падпісанай тагачасным дэканам біяфака Дзербенцовым (Нацыянальны архіў РБ, фонд 205, вопіс 3, справа 8385, ліст 5) (прыведзена з захаваннем арфаграфіі арыгіналу): «За час работы ў БДУ лічыцца прадстаўніком рэакцыйнай часткі прафэсуры, як выкладчык заолёгіі падбіраў сабе «сваіх» людзей. Да 1929 года ён трымаў на працы прэпаратара-начальніка былога афіцэра Калчакоўскай арміі Аўчыньнікава. На сходах выступае рэдка. Сваіх поглядаў (варожых) адчынена ня выказвае... Выступленні бледныя нічога ня кажуць аб яго сапраўдных думках. Зараз зьнят з працы БАН як чужды элемент... Марксісцка-ленінскай мэтадалёгіяй не ўладае, імкненьня ў сілу прапаноў некалькі ёсьць. У грамадзкім жыцьці факультэту пасывен».

З усяго гэтага становіцца зразумелым, чаму ў 1933 годзе А.У.Фядзюшын прыняў прапанову ўзначаліць кафедру заалогіі Омскага сельскагаспадарчага інстытута і пакінуў родную Беларусь. «Беларускі» перыяд жыцця вучонага скончыўся, аднак сувязь з Беларуссю яго навуковай дзейнасці не парвалася. Пераехаўшы ў Омск, А.У.Фядзюшын паступова рэалізуе задумку аб напісанні зводнай працы аб птушках Беларусі. Тут, у Сібіры, ён апрацоўвае і сістэматызуе адпаведную літаратуру і дзённікі ўласных экспедыцый, дэталёва вывучае калекцыйныя зборы (частка калекцыі – каля 600 асобнікаў беларускіх птушак – была перавезена ў Омск). Аднак час для напісання кнігі ўдаецца знаходзіць з цяжкасцю, і работа ажыццяўляецца марудна.

Ужо ў пачатку 60-х гадоў, калі да напісання кнігі ў якасці сааўтара далучыўся беларускі арнітолаг М.С.Долбік, справа пайшла хутчэй. У 1967 годзе кніга А.У.Фядзюшына і М.С.Долбіка «Птушкі Беларусі» аб'ёмам у 520 старонак убачыла свет. Яна і па сённяшні дзень з'яўляецца асноўнай зводнай працай па арнітафауне Беларусі і, відаць, будзе заставацца ёю яшчэ працяглы час. Сам А.У.Фядзюшын пасля выхаду кнігі ў свет пісаў свайму вучню С.У.Кірыкаву: «Гара зваліласся з плеч, а то сумленне грызла за некалькі тысяч загубленых мілых майму сэрцу птушак».

...У лістападзе 1971 года Беларускі дзяржаўны універсітэт святкаваў свой 50-гадовы юбілей. Напярэдадні А.У.Фядзюшыну як аднаму з першых выкладчыкаў БДУ было накіравана афіцыйнае запрашэнне прыняць удзел у святкаванні. Гэта запрашэнне адрасат атрымаў, знаходзячыся ў хірургічнай клініцы горада Омска. У лісце, накіраваным на імя рэктара, вучоны выказаў шчырае шкадаванне, што не зможа скарыстацца такой магчымасцю пабываць на радзіме... Праз тры месяцы – 10 сакавіка 1972 года – А.У.Фядзюшын памёр.

**Dr. Vasily Grichik takes up on the key Belarusian ornithologist of the early 20th century – Anatoly Fedyushin. During his work in the Belarusian State University in 1921 through 1933, Fedyushin had arranged numerous survey tours around the country, to collect over 4,000 birds specimens. His research papers had set the standards for Belarusian ornithological studies, retaining their high value until today.**

# СЕРДЦЕ ПТИЦЫ

**Игорь БЫШНЕВ**



Память, фантастическое зеркало-мозаика, составленное из отдельных остановленных на долгие годы мгновений, услужливо подсказывает: ошалелое солнце, ввинченное в потолок неба, буквально буравит болотную почву. Та, безвольно распаренная, набухает и раскисает. Постанывая от удовольствия при каждом очередном шаге, она пожирает сапоги. Однообразное многорядье чахлых березок и кряжистых сосен высотой в полтора человеческих роста чередуется с небольшими безлесными полянками-плешинами.

Над болотом со звонким «фи-фи» взлетает небольшой куличок. Сделав круг и остановившись в трепещущем полете, он с беспокойством окрикивает непрошенного гостя: «фи-фи, фи-фи!» Так вот ты каков – кулик весны! Длинные ножки, длинный клюв, черный глаз-бусинка. Теперь твое название мне известно. Смешно сказать, но эта птица так и называется – фифи. Но не стоит испытывать ее терпение. Быстро достаю скрадок-палатку для фотосъемки, раскладываю ее и прячусь. Птица успокоится и сама укажет где ее гнездо. Куличок затихает, опускается на землю и... исчезает. Что за чертовщина! Осторожно выглядываю – нужно как можно точнее определить место взлета птицы. Так, есть! Скорее туда. Опять в палатку. Замираю. Через две минуты рядом слышу тихий свист фифи и ответный писк птенцов. И, наконец, в кадре вся семейка – четыре птенца и мама. Вот, собрала всех в кучу, примостилась сверху. Греет. На палатку – ноль внимания. Молодчина. Теперь пошли дальше. Это птенцам, а что же мне? Поднатуживаюсь, приподнимаю палатку и, не вылезая, следую за «фифишками» – благо, засидка позволяет это делать. Время от времени останавливаюсь и фотографирую сцены из семейной жизни птиц.

Но выделенные на этот день пленки подходят к концу. Осталось несколько кадров. Самое время напоследок крупным планом сфотографировать птенцов. Сбрасываю с себя палатку и, не обращая внимания на затекшие ноги, бросаюсь к птенцам. Один, второй, еще два. Все. Ишь, разбегаются, шустрые. Фотоаппарат в сторону. Накрываю ладонью птенцов. Испытанное средство. Пусть успокоятся, замрут – и снимок, считай, готов.

В метре от меня раздается легкий, как вздох, шорох. Из задрожавшей травы появляется... фифи-мама. Озабоченная исчезновением своих птенцов и абсолютно не ставящая ни во что огромные размеры лежащего человека, фифи направляется прямо к моим рукам. Доходит до оттопыренного большого пальца и вопросительно смотрит туда, где попискивают ее малыши. Открываю ладони. И прямо возле рук птица усаживается, накрывая собой птенцов. Недовольно посвистывает на беспокойно высовывающиеся физиономии. Если бы прилетела и села сюда какая-нибудь дурацкая летающая тарелка, я бы и не посмотрел на нее. На моих ладонях фифи обнимала своих птенцов. Бешено стучит сердце, чуть вздрагивают веки. Позвольте, ведь это – МАМА! И чем же она отличается от наших матерей? Тем, что обнимает своих малышей не руками, а крыльями. Вот она сидит совсем рядом с человеком, в сотни раз большим за нее. И не боится. Я вижу – она не боится. Сейчас она не замечает никого. Она снова с ними... И она их любит. Я не сомневаюсь в этом. Птица-мама, пожалуйста, – последний снимок. Лично для меня. Всё, я ухожу.



**Nature's Tales section feature a story by Igor Byshnev «Heart of a Bird» - an emotional account of the rare «motherly» behavior of a female wood sandpiper.**



## Одноногий... однорогий... одногорбый верблюд

*Значение млекопитающих в жизни человека велико – они служат ему пищей, одеждой, живой валютой и т.д., но человек также понимает, что если убивать неумеренное количество животных, то ничего хорошего и никаких животных не останется, потихоньку он всех уничтожит. А мы хорошо знаем, что самое главное – это духовное и эмоциональное чувство, которое может чувствовать человек, поэтому присутствует в нашей жизни такое действие, как охрана и защита животных.*

*Страус относится к отряду куриные, заяц – к отряду грызуны, соболь – к семейству бобровые.*

*Яйцевым зубом рептилии пробуравливают яйцо. Яйцевой зуб – это коренной, молочный зуб.*

*В полости среднего уха находится вакуум, жидкость.*

*Схема пищеварительной системы у птиц: рот – глотка – анальное отверстие. Пища попадает через рот и глотку внутрь организма, там размягчается и выбрасывается через анальное отверстие.*

*Квакши имеют на лапках липучки.*

*У камбалы один глаз.*

*Летучие мыши питаются грызунами.*

*Осьминог может выпрыгивать из воды и пролетать несколько метров.*

*Оплодотворение происходит в водной среде – поэтому без труда.*

*Болотный прудяник.*

*Лось, который идет к ручейку, чтобы напиться, руководствуется условным рефлексом.*

*Основные функции листа: фотосинтез и перегнивание.*

*У земноводных на голове располагаются глаза и уши.*

*Дарвин описал переход от низших животных к высшим, например, от осла к лошади.*

*Когда люди впервые увидели муху под микроскопом, то ужаснулись! Это же настоящий апокалипсис! Они увидели на ней миллионы бактерий возбудителей чумы, холеры и др. Вот какую пользу приносят земноводные!*

*Мендэль скрэшчваў канёў (мабыць, скакуноў).*

*Заяц поедает траву, зайца поедает волк, волка – тигр.*

*Ёсць грыбы-трутні.*

*Лиса умирает, потому что не может жить вечно.*

**Ответы студентов и абитуриентов слушали А.Храмогин, О.Созинов, О.Янчуревич (ГрГУ)**

# ФОТОКОНКУРС–2002

























<u>На снимках:</u>

**1. Большой веретенник** *(Сергей Зуенок, специальный приз)*
**2. Малая крачка** *(Виктор Фенчук)*
**3. Лебеди-шипуны** *(Семен Левый, специальный приз)*
**4. Лысухи** *(Андрей Нестеров, 1-е место)*
**5. Ястреб-перепелятник** *(Александр Козулин, специальный приз)*
**6. Слеток серого сорокопута** *(Иван Богданович)*
**7. Птенец беркута** *(Владимир Ивановский, специальный приз)*
**8. Птенец серой цапли** *(Сергей Абрамчук)*

